№ 217 (1281)
Серада, 21 лістапада 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 120 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

# Народная Воля

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па краіне захаваецца пераменная воблачнасць, па паўднёвым ўсходзе — кароткачасовыя ападкі, на дарогах месцамі галалёдзіца. Вецер паўночны, 4—9 м/с. Тэмпература паветра ў Гомелі, Магілёве, Віцебску — -3...-5, Гродне, Брэсце — 0...-2, Мінску — -2...-4.

У наступныя двое сутак: воблачнае з праясненнямі надвор'е. 22-га ўначы па паўночна-заходняй палове, удзень — на значнай частцы тэрыторыі — ападкі, пераважна ў выглядзе мокрага снегу, слабы галалёд. 23-га — часам снег, слабая мяцеліца. Вецер паўднёва-заходні, 6—11 м/с, парывы да 14 м/с. Тэмпература паветра 22-га ўначы — -4...-9, удзень — -2...+3. 23-га на працягу сутак — -3...+2.



## "Пракуроры, адчапіцеся ад "Пагоні"




19 лістапада ў Гродне прайшла несанкцыянаваная акцыя пратэсту ў сувязі з закрыццём недзяржаўнай газеты "Пагоня".

Больш як сто чалавек — журналісты закрытай газеты і іншых гродзенскіх выданняў, прадстаўнікі некаторых палітычных партый і аб'яднанняў, а таксама чытачы "Пагоні" — сталі ланцужком і разгарнулі некалькі плакатаў з лозунгамі: "Каму выгадна закрыццё "Пагоні"?, "Вярніце нам "Пагоню", "Пракуроры, адчапіцеся ад "Пагоні", займайцеся лепш злачынцамі" і таму падобнымі. Пры гэтым журналісты закрытага выдання былі апрануты ў робы, што нагадвалі адзенне зняволеных, з надпісам "Я — журналіст закрытай газеты "Пагоня".

Прахожыя рэагавалі на акцыю па-рознаму, але ў асноўным выказвалі салідарнасць з калектывам закрытай газеты. Міліцыя паводзіла сябе спакойна, аднак адразу пасля заканчэння акцыі трох удзельнікаў запрасілі ў аддзяленне міліцыі — рэдактара Мікалая Маркевіча і двух супрацоўнікаў газеты, журналістаў Анджэя Пісальніка і Паўла Мажэйку.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

## ПУЛЬС

### Трэці тыдзень зніжаюцца аб'ёмы валютных здзелак

**На Беларускай валютнафондавай біржы (БВФБ) трэці тыдзень запар фіксуецца падзенне аб'ёмаў здзелак з замежнымі валютамі.**

Як паведамілі БелаПАН ва ўпраўленні валютнага рынку БВФБ, сумарны аб'ём здзелак за мінулы тыдзень склаў 55 мільярдаў 566 мільёнаў 97 тысяч беларускіх рублёў. У параўнанні з аб'ёмам, зафіксаваным тыднем раней, ён знізіўся на 4 мільярды 137 мільёнаў 878 тысяч беларускіх рублёў.

У параўнанні з папярэднім тыднем аб'ёмы здзелак у валюце змяніліся наступным чынам: па расійскім рублі — узраслі на 62 мільёны 492 тысячы, па доляры ЗША — знізіліся на 5 мільёнаў 35 тысяч, па еўра — узраслі на 606 тысяч.

**Аляксей АРЭШКА.**

### БПСМ — без святла

**Апошнія працоўныя дні "патрыёты" правялі ў цемры. Уласнік будынка па вуліцы К.Маркса, 40 — Беларускі саюз моладзі, адключыў электрычнасць на першым паверсе, займаемым ЦК БПСМ. Такім чынам гаспадары плануюць прымусіць БПСМ аплаціць даўгі па арэндзе памяшканняў, якія складаюць ужо дзесяткі мільёнаў рублёў.**

Пасля непасьяховых перамоў лідэра БПСМ Юрыя Салаўёва з першым сакратаром ЦК БСМ Алай Данілавай апошняя была выклікана на гутарку ў будынак, які знаходзіцца ў непасрэднай блізкасці з прытулкам маладзёжных арганізацый — у Адміністрацыю прэзідэнта. Лідэру БСМ прапанавалі адмовіцца ад свайго рашэння ўзамен на... пагашэнне БПСМам сваіх жа камунальных плацяжоў. Пра аплату доўгу па арэндзе, які БПСМ не аплачвае з верасня 1999 года, дзяржаўныя мужы размову не вялі.

Зразумела, што такі стан рэчаў не задаволіў уласніка, і святло ў патрыётаў так і не з'явілася. Так што зараз ні кавы папіць, ні ў камп'ютэрныя гульні пагуляць.

А пытанне аб уласнасці на шматпакутны будынак, дарэчы, зноў усплыло ў судзе, нават нягледзячы на тое, што тэрмін абскарджвання апошняга рашэння, вынесенага на карысць Беларускага саюза моладзі, скончыўся 22 жніўня. На гэты раз пытаннем уласнасці зоймецца Вышэйшы Гаспадарчы суд.

**Аляксандра СЯРГЕЕВА.**

### За талент — двухпакаёвая кватэра

**Гомельскі аблвыканкам прыняў рашэнне аб выдзяленні ў Гомелі двухпакаёвай кватэры сям'і таленавітага хлопчыка з Хойнікаў Мішы Савянка.**

Міхаіл Савянок вучыцца ў 6-м класе, нягледзячы на тое, што яму толькі 10 гадоў. Проста раней ён асвоіў праграму двух гадоў навучання за адзін год. У Мішы выключныя матэматычныя здольнасці, унікальная памяць і лагічнае мысленне. Хлопчыка называюць вундэркіндам не толькі ў Хойніках, але ўжо і ў Гомелі. Сёлета ён быў узнагароджаны спецыяльнай прэміяй аблвыканкама.

Для развіцця здольнасцяў іх сына бацькам Мішы параілі перасяліцца ў буйны горад, бліжэй да адукацыйных і навуковых цэнтраў. На жаль, матэрыяльнай магчымасці ў іх не аказалася. Таму абласныя ўлады і прынялі рашэнне аб выдзяленні сям'і Мішы двухпакаёвай кватэры ў Гомелі ў новым жылым доме, які будзе здадзены пад ключ у снежні бягучага года.

### 16 грамадзян Шры-Ланкі знойдзены ў чарнобыльскай вёсцы

**10 дзён пражылі ў адселенай вёсцы Селішча Добрушскага раёна Гомельскай вобласці 16 грамадзян Рэспублікі Шры-Ланка, якія з'яўляюцца студэнтамі падрыхтоўчага аддзялення Гомельскага дзяржаўнага медінстытута.**

7 лістапада студэнты накіраваліся на цэнтральны рынак Гомеля да знаёмага, які займаецца незаконным абменам валюты, і той прапанаваў ім адзначыць свята ў сябе на дачы. Студэнты сабралі рукзакі і прыехалі ў вёску Селішча. Паводле іх слоў, невядомыя людзі іх там абрабавалі, а потым зачынілі ў адным з дамоў і выставілі ахову.

Абвергнуць паведамленні студэнтаў міліцыі няма чым, доказаў таго, што яны хацелі незаконна пакінуць межы Беларусі, пакуль няма. Дакументы ва ўсіх у норме, таму няма падстаў і для іх дэпартацыі.

Гомельскі дзяржаўны медінстытут пачаў службовую праверку па гэтым факце самавольнай адлучкі замежных студэнтаў.

**Ірына ШАНЦАВА.**

### Маладыя — супраць сексуальнага насілля

**Мінская старшакласніца Яўгенія Вароніч прадстаўляе Беларусь на канферэнцыі Еўрасаюза па прадухіленні сексуальнага выкарыстання дзяцей, якая адкрылася 19 лістапада ў Будапешце (Венгрыя).**

Яўгенія Вароніч — валанцёр Рэспубліканскай маладзёжнай грамадскай арганізацыі "Ліга добраахвотнай працы моладзі" (ЛДПМ), удзельніца праекта "Маладыя супраць сексуальнага насілля і эксплуатацыі дзяцей", праводзімага ў розных краінах пад эгідай Міжнароднага дзіцячага каталіцкага бюро (BICE). У рамках праекта вучні трох беларускіх сярэдніх навучальных устаноў (гімназіі, школы і спецыяльнага прафтэхвучылішча) правялі сярод сваіх равеснікаў анкетаванне па праблемах сексуальнага насілля.

Аказалася, што каля 16 працэнтаў апытаных падвяргаліся сексуальнаму насіллю, каля 45 працэнтаў — адчувалі такую пагрозу. Лічбы даследаванняў, праводзімых дарослымі, звычайна ў некалькі разоў менш. Рэспандэнты больш разлічвалі на ананімнасць, калі раздавалі і апрацоўвалі анкеты іх сувучні, а дарослыя кантралявалі толькі сацыялагічную карэктнасць апытання.

**Святлана НЯСТРАХАВА.**

## ВЗГЛЯД ИЗ МИНСКА

# МОСКОВСКОЕ ВРЕМЯ

**Визит Владимира Путина в США подтвердил не только стремление России жить по законам цивилизованного мира, но и отсутствие намерений строить с белорусами мифический союз. Более того, после встречи президента РФ с американскими журналистами на географической карте мира появилось новое государство... БЕЛОРУССИЯ**

Именно так постоянно называл БЕЛАРУСЬ Владимир Владимирович. Зачем только церемонился! Мог бы и попроще именовать, например, Северо-Западным краем. Ничего, как младшие братья стерпим, не привыкать. Визит в США — это вам не поездка в российскую глубинку. Слово, жест, улыбка или хитрое подмигивание — там все имеет тайный смысл и глубокое значение. Например, с чего бы это очень разборчивая в друзьях Америка удивительно тепло приняла малоизвестного ей лидера? Который постоянно напоминал президенту США о больших перспективах в сотрудничестве и о том, что России с Америкой по пути.




Вот уже и "круглый стол" созван из элиты российских и американских высокотехнологичных компаний под руководством академика Велихова. А разговоры о стратегических вопросах обороны, совместных образовательных программах, инвестициях в экономику федерации чего стоят!

Что бы это значило? Да только одно — корабль Российской империи медленно ложится на противоположный, но правильный курс, меняя игры в поддавки с бывшими друзьями по Советскому Союзу на серьезное и деловое сотрудничество с мировым лидером. Как правда то, что деньги идут к деньгам, так верна и следующая истина: сильный всегда дружит с равным себе.

Но в решении собственных глобальных задач Москве, конечно же, Беларусь нужна. Как реальный щит от НАТО, немножко как деловой партнер и чисто в политических целях. Не более. А для этого вовсе не обязательно строить какой-то там Союз или создавать "потемкинскую деревню" в виде мифического государства. Ведь Америку, так тепло принимавшую Путина, даже разговоры на тему объединения злят. А злой друг — плохой друг...

Накануне и после визита Владимира Путина разговоров о единении, общем парламенте и деньгах, прозрачных границах, культурных днях Минска в Москве и наоборот, высочайшей роли Павла Бородина в пополнении "общака", трудностях роста, последующем изобилии заметно поубавилось. Скоро, полагаю, их станет еще меньше. Белорусскому обществу придется избавиться от иллюзий и рассчитывать исключительно на собственные силы. Неискушенным в политике местным обывателям, особенно тем, кто тоскует по коммунистическим временам, придется основательно поубавить аппетит. А то великое множество соотечественников уже успело широко раскрыть рот, чтобы объедаться хоть халвой в шоколаде, хоть черной икрой или заливной рыбой. Лишь бы давали.

Только один факт, который меня насторожил и заставил сильно усомниться в желании сегодняшнего российского руководства расслабиться и получить удовольствие от совместного проживания. Американские журналисты спрашивают Путина об отношении России к Беларуси, где демократию, по их мнению, вряд ли можно назвать развитой. И Владимир Владимирович высказывается в том смысле, что "БЕЛОРУССИЯ — это вообще особая ситуация". Есть стремление населения, говорит он, "к строительству КАКИХ-ТО совместных государственных структур". Народы этнически близки, особенно по культуре и языку, общая история, взаимные симпатии... Этакий урок истории с географией для простодушных американцев!

А я по наивности полагал, что одними симпатиями сыт не будешь, нужны еще нефть, газ, кредиты. О них — ни слова. Иметь общие структуры тоже дело хорошее, пусть и они будут. Но если я не ошибаюсь, Александр Лукашенко регулярно летает в Москву не структуры создавать, а нечто похожее на единое государство. В Америке так и не дождались признания Владимира Путина в том, что Россия и Беларусь строят общий дом, что союз этот исторически необходим и очень важен, иного от нас, славян, и не ждите.

Поди же, дипломатично промолчал. На всякий случай. Да, мудрость, как и красоту, не скроешь...

Беларуси еще предстоит пройти экономический стресс, покупая российские энергоносители не по бросовой, льготной цене, а по настоящей, рыночной. Да перестать гордиться, что она единственная в СНГ удостоена такой чести. И с абсолютно неконкурентоспособными МАЗами горя хлебнем, ведь их не пускают сегодня в Европу из-за несоответствия экологическим, техническим и прочим требованиям. А Россия тем временем успешно развивает собственное машиностроение, включая тракторное. Вскоре необходимость в импорте такой продукции из Беларуси тоже отпадет. Ведь прокат жлобинских металлургов США уже не покупают, а это 20 процентов экспорта. Поэтому Путин и осторожничал в Америке с критикой, вырабатывая имидж друга, тонко намекая на сближение позиций и готовность окончательно демонтировать последствия "холодной войны".

Как поступила в такой ситуации белорусская власть? Она кинулась в обидки. Есть такой детский способ защиты. Государственная пресса полностью проигнорировала визит. Не царское, мол, это дело — Путина обсуждать, мы к объединению готовимся.

Читатель, в порядке эксперимента предложите соседу: слушай, давай не просто будем семьями дружить, а жить вместе, с общим бюджетом и холодильником. Если он в тот же день не сдаст вас психиатру, то бегите к нему сами. Говорят, в редких случаях это лечится.

Мне кажется, если России и следует с кем объединяться, так это с Америкой. Она хоть деньги имеет, не пьет, там дороги хорошие и дураков поменьше. И песни по праздникам она славные поет. Одним словом, музыка техасская, слова — российские. Партию "бом, бом" исполнять, видимо, придется белорусам. Но уже без братней РУСИ. А что, если есть БЕЛОРУССИЯ, то должна же быть на этой земле и Федерация РУСЬ...

**Леонид АНОП,**
**собственный корреспондент газеты "Народная воля" в Соединенных Штатах Америки.**
Вашингтон — Минск.

## СКАНДАЛ

# За "Тутэйшых" ніхто не змагаецца

**На мінулым тыдні "Народная воля" паведаміла сваім чытачам аб надзвычайным здарэнні ў Беларусі: у тэатры імя Янкі Купалы забаранілі п'есу Янкі Купалы "Тутэйшыя". Мы патэлефанавалі вядомым людзям і спыталі, як яны ставяцца да барацьбы ўладаў з "Тутэйшымі" і чаму наогул маўчаць?**


*Сцэна са спектакля "Тутэйшыя". Пастаноўка М. Пінігіна.*

**Вольга ІПАТАВА, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі:**

— Маё стаўленне да забароны "Тутэйшых", канешне, рэзка адмоўнае. Але я лічу, што ў гэтай сітуацыі павінен паварушыцца ў першую чаргу сам дырэктар Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы. Зараз у Саюзе пісьменнікаў вельмі шмат пытанняў і праблем. Ваша газета часценька абвінавачвае пісьменнікаў ва ўсіх грахах грамадства. Але ж пісьменнікі ўсё ў гэтым грамадстве змяніць не могуць...

**— Гэта азначае, што ніякіх палітычных крокаў у абарону "Тутэйшых" Саюз пісьменнікаў рабіць не будзе?**

— Я хачу вам нагадаць, што Саюз пісьменнікаў — грамадская арганізацыя. У яе статуце гэта напісана. Адносіны да забароны "Тутэйшых", я хачу паўтарыць, у нас самыя негатыўныя: мы аб гэтым пішам у сваіх творах, даём інфармацыю ў сваіх выступленнях. Палітычных заяў мы ніякіх рабіць не будзем.

**Аляксей ДУДАРАЎ, драматург:**

— Я не думаю, што такі спектакль будуць здымаць з рэпертуару. Не ведаю дакладна прычын таго, чаму "Тутэйшых" забаранілі паказваць. Калі яго кансервуюць дзеля таго, як кажуць, каб узнавіць дэкарацыі, — нічога страшнага я ў гэтым не бачу. Напрыклад, калі пісалі, што знялі з рэпертуару спектакль "Князь Вітаўт", то пісалі няпраўду. Ніхто гэты спектакль не здымаў. Прычына ў тым, што прыйшлі у нягоднасць дэкарацыі, і "Князя Вітаўта" часова прыпынілі. Калі "Тутэйшых" знялі па нейкіх іншых прычынах, маё стаўленне адназначна адмоўнае.

**— Калі атрымаецца, што спектакль знялі па палітычных прычынах, ці збіраецеся Вы неяк рэагаваць, выступаць у прэсе, рабіць заявы?**

— Ну якія могуць тут быць палітычныя прычыны? Гэты спектакль ідзе ўжо гадоў дзесяць. Ды і выбары прайшлі. Я не бачу тут ніякіх палітычных прычын. Не тыя зараз часы. "Народная воля" ж выходзіць...

**Алесь СІЛІЧ.**

**АД РЭДАКЦЫІ: Здзіўляе наіўнасць вядомых грамадскіх і культурных дзеячаў з нагоды забароны "Тутэйшых". Яны не ведаюць, што тут ёсць палітычныя прычыны. А якія ж былі прычыны для падпісання "міравой" дамовы Шарэцкага і Лукашэнкі ў ноч з 21 на 22 лістапада 1996 года. Па якіх прычынах у нас нахабна адабралі нашы гістарычныя сімвалы ў 1995-м. А зараз адабралі гонар нацыянальнай культуры — слова Янкі Купалы.**

## Дзяржаўныя тэатралы

На жаль, мы не змаглі датэлефанавацца да міністра культуры Беларусі **Леаніда ГУЛЯКІ.** У панядзелак міністр быў страшэнна заняты — праводзіў розныя нарады і сустрэчы. У аўторак з самай раніцы ў яго таксама былі наведвальнікі, а потым Леанід Паўлавіч спяшаўся на з'езд Саюза мастакоў, дзе планаваў правесці амаль увесь дзень. За паўтара дня ў міністра культуры не знайшлося нават трох хвілін на размову з журналістам "Народнай волі"!..

Дарэчы, глядзеў спадар Гуляка спектакль "Тутэйшыя" ці не — дакладна невядома. Аднак, па словах сакратаркі, да творчасці Янкі Купалы ён ставіцца з вялікай павагай. Але пры гэтым міністр культуры Беларусі дагэтуль нідзе ні слова не сказаў наконт далейшага лёсу "Тутэйшых". Пагадзіцеся, дзіўная пазіцыя для чыноўніка, які, здавалася б, дзеля нацыянальный культуры павінен ахвяраваць не толькі крэслам, на якім сядзіць.

Варта дадаць, што ранкам 14 лістапада дырэктар Купалаўскага тэатра **Генадзь ДАВЫДЗЬКА** ездзіў у Міністэрства культуры. Акцёры не выключаюць: менавіта тады яму сказалі, што "Тутэйшыя" на сцэне Купалаўскага з'явіцца не павінны.

Генадзь Браніслававіч ад любых каментарыяў для "Народнай волі" адмаўляецца.

На сённяшні дзень у тэатры імя Янкі Купалы ідзе *ЎСЯГО АДЗІН* спектакль па п'есе Янкі Купалы — славутая "Паўлінка".

Высокапастаўленыя чыноўнікі Беларусі, у адрозненне, напрыклад, ад сваіх маскоўскіх калег, у тэатры ходзяць вельмі рэдка. У свой час неаднойчы былі заўважаны ў тэатральных залах сталіцы толькі экс-прэм'ер-міністр **Уладзімір Ярмошын,** экс-старшыня КДБ **Уладзімір Мацкевіч**, экс-міністр унутраных спраў **Юрый Сівакоў**, старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю **Анатоль Тозік** і памочнік прэзідэнта **Сяргей Посахаў**.

**А.Лукашэнка** ў Купалаўскім тэатры быў, памятаецца, на пахаванні Яроменкі-старэйшага. Як сказаў галоўны рэжысёр "Вольнай сцэны" **Валеры Мазынскі**, цяжка ўспомніць, каб Аляксандр Рыгоравіч сядзеў у зале, глядзеў нейкі твор, а не сябе выстаўляў як твор мастацтва...

На сённяшні дзень чыноўнікі Адміністрацыі прэзідэнта адмаўляюцца ад афіцыйных каментарыяў наконт забароны ў Беларусі Янкі Купалы. Той, хто адказвае за ідэалогію, адпраўляе за тлумачэннямі ў Міністэрства культуры. А ў міністэрстве тыкаюць пальцам у столь і кажуць, што ўсё вырашаюць наверсе.

Цікава, як можна "вырашаць", не ходзячы ў тэатр?!

**Марына КОКТЫШ.**

## НЕЗАЛЕЖНАЯ ЭКСПЕРТЫЗА

# Паліцэйскі ўхіл?

У Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу адобраны ў першым чытанні праект бюджэта на 2002 год. Магчыма, у ходзе абмеркавання ў яго ўнесены некаторыя карэктывы. Але высветліць гэта нам не ўдалося. Кіраўнікі пастаяннай камісіі па бюджэце то спасылаліся на занятасць, то на тое, што па тэлефоне на пытанні не адказваюць. Дамовіцца аб сустрэчы таксама не ўдалося. Так што будзем аперыраваць лічбамі праекта, які разглядалі адпаведныя структуры і прапаноўвалі ў парламент свае карэктывы.

Пры знаёмстве з праектам бюджэта заўважаеш два перакосы. Адзін з іх знаёмы па ранейшых такіх дакументах. Вялізныя сродкі, як і ў папярэднія гады, ідуць на ўтрыманне распухлых сілавых структур. Так, на нацыянальную абарону выдзяляецца 235 мільярдаў рублёў, на праваахоўную дзейнасць і гарантаванне бяспекі — 368 мільярдаў; на судовую ўладу — 21,7 мільярда рублёў, а ў суме — 625 мільярдаў рублёў. У той жа час на прамысловасць, энергетыку і будаўнічы комплекс — усяго 28 мільярдаў рублёў, на культуру і мастацтва, кінематаграфію — 24 мільярды рублёў.

Як бачым, на сілавыя структуры выдзяляецца прыкладна ў дваццаць разоў больш сродкаў, чым на культуру і мастацтва. Прыведзеныя лічбы паказваюць, што ў нас застаецца ўхіл на пабудову і ўмацаванне паліцэйскай дзяржавы.

Наводзяць на роздум і наступныя лічбы. Упраўленню справамі прэзідэнта адпускаецца 45 мільярдаў рублёў, Службе бяспекі прэзідэнта — 5 мільярдаў, Нацыянальнай акадэміі навук — 6 мільярдаў рублёў.

Словам, ахова прэзідэнта абыходзіцца нам амаль столькі ж, як і правядзенне акадэмічных навуковых даследаванняў, вынікі якіх і вызначаюць прагрэс грамадства. На іх выдзяляецца сродкаў у шэсць разоў менш, чым Упраўленню справамі прэзідэнта.

Незалежныя эксперты ўжо ахрысцілі бюджэт 2002 года магілёўскім. У дакуменце запланаваны непрапарцыянальныя ўліванні ў Магілёўскую вобласць. Так, падаткі на дабаўлены кошт на тавары мяркуецца пералічваць у бюджэты абласцей у такім аб'ёме: Брэсцкай вобласці — 66%, Віцебскай — 47, Гомельскай — 42, Гродзенскай — 58, Мінскай — 56, Магілёўскай — 91%. Падаткі на даходы, прыбытак юрыдычных асоб пералічваюцца ў бюджэты абласцей у аб'ёме: Брэсцкай — 60%, Віцебскай — 44, Гомельскай — 51, Гродзенскай — 43, Мінскай — 39, Магілёўскай — 100%.

Чым выклікана такая дабрата да магіляўчан?

Афіцыйныя асобы і іх прапагандысты любяць смакаваць гранты, якія зрэдку выдзяляюцца на падтрымку незалежнага друку Беларусі. Якія ярлыкі пры гэтым не навешваюць на сумленных журналістаў! Між тым самі шчодра падкормліваюць сваіх кішэнных агітатараў. Так, на будучы год на дзяржаўныя СМІ выдзяляецца 38 мільярдаў рублёў. Яшчэ раз адзначу, што на ўсю прамысловасць, энергетыку і будаўнічы комплекс адпускаецца 28 мільярдаў рублёў, што значна менш, чым прапагандыстам улады.

Магчыма, гэтыя ды іншыя перакосы прыкмецілі і дэпутаты. Бо, як паведамляе БелаПАН, за прыняцце дакумента ў першым чытанні прагаласавалі 64 парламентарыі, супраць выказаліся 25.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

Народная Воля



## Нашы хлопцы робяць мэблю французам

Сталяры-зборшчыкі Юрый Караза і Дзмітрый Ціханаў працуюць на Ружанскай мэблевай фабрыцы. Мэбля ў сялянскім стылі, зробленая імі, карыстаецца попытам у Францыі, Галандыі, Іспаніі.

**На здымку:** *хлопцы-ўмельцы рыхтуюць сваю прадукцыю да адпраўкі за мяжу.*

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

## Медыкі памруць ад голаду, але здаровымі

### Дзяржава пазбавіла іх дадатковых заробкаў

Рэспубліканскі інстытут анкалогіі стаў першай медыцынскай установай, дзе ўрачам забаранілі працу па сумяшчальніцтве і пасадзілі іх на голыя аклады. Адпаведны загад за подпісам дырэктара інстытута Іосіфа Залуцкага з'явіўся на пачатку лістапада.

У Міністэрстве аховы здароўя тлумачаць, што гэтыя меры прынятыя ў адпаведнасці з працоўным кодэксам, дзе адзначана, што работнікам, праца якіх звязана са шкоднымі ўмовамі, забараняецца сумяшчальніцтва. Урэшце, маўляў, дзяржава праявіла клопат пра медыцынскіх работнікаў: не ўвесь жа час ім праводзіць у сценах бальніц і клінік.

У Беларусі не толькі анколагі, але медыкі амаль усіх спецыяльнасцей — нейрахірургі, радыёлагі, анестэзіёлагі і іншыя — працуюць у шкодных умовах і нават атрымліваюць за шкоднасць малако. Не выключана, што ўслед за інстытутам анкалогіі падобныя новаўвядзенні з'явяцца і ў іншых медыцынскіх установах. Ва ўсялякім разе, як удалося высветліць, адпаведны загад ужо падрыхтаваны ў НДІ радыяцыйнай медыцыны.

А як самі ўрачы ставяцца да такой своеасаблівай увагі да іх здароўя? Вядома, што ва ўсе часы беларускія медыкі атрымлівалі малыя заробкі і працавалі на паўтары, а то і дзве стаўкі. Дадатковы заробак складаў амаль палову штомесячнага даходу медыкаў. Урачы інстытута анкалогіі падлічылі, што цяпер будуць губляць штомесяц каля 60—90 тысяч рублёў, медыцынскія сёстры — каля 40 тысяч, а працаваць, мяркуючы па ўсім, менш не стануць. Напрыклад, загадчык аддзялення, кандыдат медыцынскіх навук, які кожны дзень праводзіць складаныя аперацыі, не далічыцца ў лістападзе амаль 90 тысяч. У размове са мной адзін з супрацоўнікаў інстытута сказаў: навошта мне такі клопат дзяржавы?..

У Міністэрстве аховы здароўя спрабавалі выправіць складаную сітуацыю і звярнуліся з лістом у Адміністрацыю прэзідэнта. Адтуль прыйшоў адказ, што падобныя нормы ўведзены ў адпаведнасці з беларускім заканадаўствам, адпавядаюць сусветнай практыцы і таму праблема, так бы мовіць, невырашальная. Асабіста Лукашэнка не падтрымаў і прапанову медыкаў выдаць прэзідэнцкі дэкрэт, які б дазволіў медыкам сумяшчальніцтва.

Відавочна, што вырашыць праблему можа толькі значнае павышэнне зарплат медыцынскім работнікам. Аднак чыноўнікі Міністэрства фінансаў кажуць, што змен прыйдзецца чакаць доўга: у дзяржавы няма грошай, каб плаціць медыкам адэкватную іх працы зарплату. У краіне велізарная запазычанасць па заробках, на 31 кастрычніка — 40 мільярдаў рублёў. У ліку тых, хто атрымлівае зарплату са спазненнем, і медыкі, асабліва сельскія.

І яшчэ адзін штрых. Апошнім часам зарплата ўрачоў з усялякімі прэміямі, "начнымі", "чарнобыльскімі" і іншымі надбаўкамі ледзь-ледзь перавышала 100 долараў. Цяпер медыкі не будуць атрымліваць і гэтага. Яскравы прыклад неадпаведнасці перадвыбарчых абяцанкаў Лукашэнкі рэаліям сённяшняга дня.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

*У бальніцы вёскі Абчуг Крупскага раёна.*

**Фота IREX/ProMedia.**

РЕАГИРОВАНИЕ

## Письмо гражданки Каминской рассмотрено...

В "Народной воле" было напечатано письмо гражданки Л.Каминской. Минским ПЛХО совместно с инспекцией природных ресурсов и охраны окружающей среды Вилейского района проведена проверка, в ходе которой установлено, что факт загрязнения лесного массива возле д.Порса частично подтвердился.

Силами лесхоза произведена уборка загрязненной территории. Лесхозу указано на необходимость усиления охраны территории гослесофонда, примыкающей к населенным пунктам, от лесонарушений.

Просьба гражданки Л.Каминской о сносе аварийного дерева будет удовлетворена силами Вилейского ГПО ЖКХ.

Одновременно Минское ПЛХО сообщает, что за 9 месяцев т.г. проведена работа по улучшению санитарного состояния лесов гослесофонда, их благоустройства, в том числе очищены от захламленности леса на территории 22.397 гектаров, благоустроено 1180 мест отдыха.

**М.АМЕЛЬЯНОВИЧ,**
**генеральный директор Минского производственного лесохозяйственного объединения.**

## От должности главного врача В.Аврамов освобожден

Управление охраны здоровья Миноблисполкома провело служебное расследование по публикации "С вещами... на выход".

Сообщаем, что изложенные в статье факты действительно имели место. Администрация Минского РТМО (главврач В.И.Аврамов) неудовлетворительно подготовила к отопительному сезону детское отделение ЦРБ. При возникновении аварии в системе теплоснабжения крайне непродуманно произвело перемещение и выписку больных.

Авария была устранена в течение суток. К виновным должностным лицам применены меры морального и дисциплинарного воздействия. В.И.Аврамов от должности главного врача освобожден.

Управление охраны здоровья Миноблисполкома приносит извинения пациентам. Принимаются меры для укрепления руководства Минского районного территориального медицинского объединения.

**В.ГУРКО,**
**начальник Управления охраны здоровья Минского облисполкома.**

ЭХО

## "Взять бы эти льготы да отменить!"

**Небольшое письмо нашего читателя Захарова из Слонима "Взять бы эти льготы да отменить!" ("Народная воля" за 2 ноября с.г.) не осталось незамеченным, взволновало многих. Публикуем сегодня часть откликов.**

### Заработано трудом и кровью

Несмотря на то, что я инвалид II группы и меня непосредственно коснулась бы отмена льгот, я полностью разделяю точку зрения слонимчанина Захарова. И не потому, что мои льготы мизерные — не более 5 тысяч "зайчиков" в месяц. Я против всяких льгот в принципе. Государство обязано всем пенсионерам, инвалидам и т.д. выплачивать **достойную** пенсию, ну а работающим — **достойную** зарплату, чтобы наши люди могли довольствоваться не только ливеркой.

Война закончилась 56 лет тому назад. И мы вправе ждать от нашего государства человеческой жизни, которую заработали своим трудом и кровью.

Впрочем, отнюдь не сами льготы инвалидам являются причиной нашей бедности. Над этим хотел бы предложить задуматься уважаемому Захарову.

**Леонид ЗОЗУЛЯ,**
**пенсионер.**

Минск.

### Откуда у нас столько привилегированных?

Вполне согласен с автором письма. Сейчас куда ни кинь — льготник, причем нередко какой-нибудь проныра. В нашем небольшом городке мы почти все знаем друг друга. Знаем, кто что заслужил и что имеет. Так вот, некоторые инвалиды даже первой группы свободно ездят на велосипедах, работают на дачах и т.д., имея при этом всяческие льготы. Иной когда-то стал инвалидом по пьянке и пользуется привилегиями, как и инвалид войны. Разве это справедливо?

Среди ветеранов войны тоже нет справедливости. Те, кто находился вдали от передовой, имеет такой же процент надбавок к пенсии, как и те, кто гнил в окопах, горел в танках, самолетах. А посмотрите, что стало с инвалидами ВОВ: их сейчас каким-то образом стало даже больше, чем было после войны! Примазавшихся к этой категории полным полно.

Настоящих же, вышедших из войны инвалидов вообще затоптали, отбросили в сторону. Не на состояние здоровья смотрят, а на наличие удостоверения.

Так что я на стороне Захарова. Нужно льготы отменить. А назначать размеры пенсий исключительно по реальным заслугам и трудовому вкладу каждого.

**Григорий Митрофанович ЛЕСУН,**
**инвалид Великой Отечественной войны.**
**г.Березино Минской области.**

### Тады ўсё стане на сваё месца

Я таксама за тое, каб усе ільготы ліквідаваць, а тым грамадзянам, якія іх мелі, устанавіць адпаведныя надбаўкі-кампенсацыі да пенсіі ці асобныя выплаты, калі грамадзянін не з'яўляецца яшчэ пенсіянерам. Кампенсацыі гэтым катэгорыям грамадзян павінны налічваць аддзелы сацыяльнай абароны. Сам тэрмін "ільгота" павінен паступова выйсці з ужывання, замяніцца новым — "кампенсацыя". Тады ўсё стане на сваё месца. Тысячы бухгалтараў, службоўцаў дзяржаўных і грамадскіх устаноў вызваляцца ад дадатковай працы па налічэнні — кожны месяц, з года ў год — кожнаму ільготніку кніжак, пачынаючы ад камунальных паслуг і канчаючы памыўкай у лазні. Дарэчы, за гэтую працу ім ніхто не даплачвае.

Асобная тэма — каго дзяржава павінна дадаткова фінансаваць і абслугоўваць. Не сакрэт, што многія "заслужаныя" грамадзяне, якія жывуць у Рэспубліцы Беларусь, не прызнаюць яе дзяржаўнасці. Яны аўтаматычна атрымалі грамадзянства, бо жылі ў часы СССР на тэрыторыі "Советской Белоруссии". Я часта бачыў і бачу гэтых "граждан", гатовых, прабачце, раскроіць чэрап любому, хто захоча пацікавіцца лёсам сваіх грошай і спісам іх "заслуг". Многа "заслужаных" ружовашчокіх ільготнікаў напрыязджала да нас з краін Прыбалтыкі, дзе, па сучасных законах гэтых краін, іх "заслугі" не бяруцца пад увагу, бо хутчэй падпадаюць пад артыкулы Крымінальнага кодэкса. Ды і "сваіх" такіх ільготнікаў у нас процьма. Пасля дзесяцігоддзяў дзяржаўнага тэрору супраць народа і сотняў тысяч расстраляных каты-ільготнікі і іх ахвяры, не маючыя льгот, жывуць і паміраюць побач...

**З павагай М.ЯЎСЕЙ,**
**жыхар Гродна.**

## Несвятое свята

**Партыя камуністаў Беларуская падала ў суд на сталічныя ўлады. Падставаю для судовага іску сталася забарона на правядзенне дэманстрацыі і мітынгу ў гонар чарговай гадавіны "Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі".**

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

Галоўнае камуністычнае свята — Дзень Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі — мае ў незалежнай Беларусі статус дзяржаўнага. У той жа час камуністам усіх масцей не было дазволена правесці ў іхні дзень ні дэманстрацыі, ні нават мітынгу. Гэткі абсурд — вельмі паказальны для лукашэнкаўскай Беларусі.

Нагадаем, што дзень 7 лістапада быў адноўлены як дзяржаўнае свята менавіта за лукашэнкаўскім кіраваннем і па ініцыятыве Лукашэнкі. Аднак зрабіў ён гэта не для нейкіх там камуністаў, а для сябе. Гэтак мовіць, прыватызаваў камуністычнае свята.

Следам за Беларуссю "чырвоны дзень календара" зрабілі афіцыйным святам і ў Расіі — пад назваю "Дзень прымірэння і згоды". Што ж, гэта выдатна ўкладаецца ў рэчышча цяперашняй расійскай палітыкі, дзе двухгаловы арол размахвае крыламі ў такт мелодыі савецкага гімна. Аднак калі расійскія афіцыёзныя мас-медыя сёлета (як, дарэчы, і раней) каменціравалі маргінальнае святкаванне ў стрымана-іранічным плане, дык беларускія — таксама па завядзёнцы — цалкам сур'ёзна, як сапраўдную ўрачыстасць. Не зважаючы на тое, што самім удзельнікам гэтую ўрачыстасць сапсаваў менавіта кіруючы рэжым.

Трэба зазначыць, што ў параўнанні з савецкім часам камуністычная дэманстрацыя відавочна здрабнела. І ўдзельнікаў было са жменьку (у сталіцы менш за 1000) — дый маршрут істотна скараціўся: ад касцёла Святых Сымона і Алены — да помніка правадыру сусветнага пралетарыята на той жа плошчы. Апошняя акалічнасць, зрэшты, здарылася зусім не таму, што камуністы канчаткова разлайдачыліся альбо ўзрост удзельнікаў зрабіў іх настолькі нямоглымі, што яны не здолелі пракрочыць больш працяглую дыстанцыю. Не, Партыя камуністаў Беларуская падавала заяўку на цэлы комплекс святочных мерапрыемстваў: мітынг на плошчы Незалежнасці, адтуль — дэманстрацыя да плошчы Перамогі, і пасля — канцэрт у парку Горкага. Але ж упершыню ў гісторыі Беларусі мітынг і шэсце з нагоды кастрычніцкага перавароту былі забароненыя.

Каб нікому не было крыўдна, адмовілі не толькі апазіцыйным камуністам на чале з Сяргеем Калякіным, але і камуністам сваім, кішэнным — г.зн. Камуністычнай партыі Беларусі. Яе ўзначальвае Віктар Чыкін, які мае велізарны асабісты досвед у заціскannях ды забаронах. У свой час Чыкін займаў пасаду намесніка старшыні Мінскага гарвыканкама, спецыялізаваўся якраз на вулічных акцыях і дужа спрактыкаваўся ў адмовах на гэты конт (часцяком у здзеклівай форме). То вось цяпер яму самому давялося пакаштаваць, наколькі салодкі смак у рашэнняў, што вынікаюць са свавольства ўладароў, без аніякіх законных падстаў.

Між іншым камуністычных арганізацый розных форм ды памераў у Беларусі налічваецца ажно 5 штук. Дык вось, камуністам усіх накірункаў ды гатункаў дазволілі адно толькі ўскласці кветкі да помніка Леніну. Згаданую шырокую праграму святкавання сталічныя ўлады проста "не заўважылі": яны не абцяжарвалі сябе хаця б нейкай матывацыяй; не дазволілі — дый усё.

У адрозненне ад сваіх папярэднікаў 17-га года, сучасныя беларускія камуністы не кінуліся на штурм якога-небудзь палаца. Пэўна з-за таго, што Зімовага палаца ў Мінску няма — то не лядовы ж ім палац штурмаваць на самай справе! Такім чынам, камуністы паслухмяна абмежаваліся ўскладаннем кветак да помніка Леніну. Хаця старшыня ПКБ С.Калякін падкрэсліў, што гэта можна было зрабіць і без ніякай заяўкі: на тое, каб прынесці кветкі да помніка, дазволаў не патрабуецца. А вось што тычыцца забароны на астатняе — дык Партыя камуністаў Беларуская лічыць рашэнне гарадскіх улад незаконным, і таму абскарджвае яго ў судзе.

Пазоў пададзены ў суд Маскоўскага раёна сталіцы, прычым Мінскаму гарвыканкаму інкрымінуецца артыкул 167 Адміністратыўнага кодэкса — "Парушэнне парадку правядзення мітынгаў і дэманстрацый". Цікава, што гэта першы прэцэдэнт такога кшталту: раней у беларускіх судах было багата спраў па гэтым артыкуле, але адказчыкамі выступалі выключна арганізатары ды ўдзельнікі вулічных акцый. "Закон роўны для ўсіх. Ці ў Беларусі не гэтак? Пабачым на дадзеным судовым працэсе", — кажа лідэр беларускіх камуністаў С.Калякін.

Праўда, наўрад ці іхні кумір ухваліў бы падобныя дзеянні: цяжка ўявіць, каб Ленін абскарджваў учынкі царскіх граданачальнікаў у царскім жа судзе. Ну, а лукашэнкаўскі рэжым, варта заўважыць, дзейнічаў у поўнай адпаведнасці калі не з тэорыяй, дык з практыкай рэжыму камуністычнага: кожная палітычная ініцыятыва, якая ідзе знізу, без санкцыі ўладных ідэолагаў, успрымаецца як мінімум падазронай і падлягае забароне.

Тым часам Аляксандр Лукашэнка ў прамове 7 лістапада за чарговым разам засведчыў сваю вернасць ідэалам недалёкай мінуўшчыны. Так, ён назваў Кастрычніцкую рэвалюцыю "ўсвядомленым выбарам пакаленняў", а Савецкі Саюз — "нашай вялікай Радзімаю", а таксама заявіў, што Вялікі Кастрычнік "навучыў нас упартай працаю дамагацца... пабудовы высокаразвітага, сучаснага дэмакратычнага грамадства". У поўнай адпаведнасці з гэтымі самымі прынцыпамі "высокаразвітага дэмакратычнага грамадства" ён і душыць усе формы нязгоды з уладаю — прынамсі, вулічныя акцыі. Прычым тут Лукашэнка выяўна прадэманстраваў сваю аб'ектыўнасць: для ідэалагічна блізкіх яму камуністаў выключэння не робіцца. Перад "бацькам" усе роўныя — што камуністы, што дэмакраты. Роўныя ў сваім бяспраўі.

Метадалогія простая: дарваўся да ўлады — рабі што хочаш. Захацеў — і камуністаў паставіў на месца. Як бы там ні было — гэты дзень, 7 лістапада, частка нашага грамадства ўспрымае як свята. Па дэмакратычных мерках кожны мае права адзначаць тое свята, якое лічыць сваім, і, пры жаданні, рабіць гэта публічна. Лукашэнку ж на любыя святыні, вобразна кажучы, глыбока напляваць. Ён культывуе настальгію па Савецкім Саюзе, якую проста скарыстоўвае ва ўласных палітычных інтарэсах. Не ёсць святым для яго і свята кастрычніцкай рэвалюцыі, хоць у папулісцкіх мэтах ён і выступіў напярэдадні 7 лістапада са спецыяльным зваротам.



МНЕНИЕ

## При каждой неудаче давать умейте сдачи...

### Горькие, но необходимые уроки для белорусской оппозиции

**Александр ОЛЬХОВОЙ**

Факт очевидный и неоспоримый: президентские выборы оппозиция НЕ ПРОИГРАЛА. Она их позорно, безмозгло, бесталанно ПРОДУЛА.

Нашей молодой, зеленой демократии не хватило знаний... **элементарных основ ленинизма.** Да-да, именно так, и я сегодня не побоюсь этого слова и возможных насмешек, язвительных замечаний в свой адрес. Ильич, конечно же, был изрядным разбойником (как и его ближайшие соратники по октябрьскому перевороту), изощреннейшим политическим интриганом и отъявленным безбожником. Но в деле именно политического изыска, или, как теперь модно говорить, в тонкостях политтехнологий, был бо-о-ольшой дока, неустанный рационализатор и изобретатель. Помните знаменитое ленинское: **"поменьше политической трескотни", "поменьше пышных, малозначащих, дежурных фраз", "быть в гуще", "знать массу", "знать настроения", "уметь подойти, завоевать абсолютное доверие"...** Недавно, выйдя из электрички "наугад" (ехал в направлении Молодечно), зашел в одну из близлежащих деревень, чтобы спросить не продает ли кто "по дешевке" дом для летнего отдыха... Притихшую, будто спящую, веску обошел "по акватории" раза три, но **не встретил ни одной живой души.** Кроме нескольких бродячих кур, гусей, котов и собак... Казалось, люди либо эвакуированы, либо сбежали кто куда от какой-то страшной эпидемии, проказы... Отчаявшись, взял было курс обратно к станции, но тут меня окликнул ожелезненный алкоголем женский голос: "Мужчина, не дом ли купить хотите?" Пожилая "дама", прихрамывая и вытирая руки о подол видавшего виды платьица, приближалась ко мне от калитки, за которой виднелся убогий, далекий от элементарной ухоженности двор. "Хочу", — ответил я. "Дык вось, выбирайте!", — и она стала показывать чуть ли не на каждый третий дом, похожий, скорее, на "хижину дяди Тома", называя примерную цену. "А где же люди?" "А кто где! Одни в Минске для бизнесменов торгуют, другие на шабашках в России... Тут если будешь сидеть, да еще с детьми — крышка, труба дело. И я бы рванула, куды глаза глядять, дык вось — инвалидка с детства..."

Вы видели, уважаемый читатель, чтобы какая-нибудь из наших **независимых** газет (кроме "Народной воли") поместила, к примеру, большой, убедительный, впечатляющий фоторепортаж из такой вот либо ей подобной деревни? Которых по Беларуси — вагон и маленькая тележка...

***

Лукашенко, как искусный карточный шулер, исподволь втянул нашу оппозицию в долгие, бесплодные споры, дискуссии, тусовки и разборки о правах человека, свободе слова, беззакониях милиции, судов, нарушениях избирательного законодательства, в то же время присвоив себе "право первой ночи" и вынуждая ее работать "вторым номером", лишь "огрызаться", отвечать на "уколы". Сколько критических стрел, едких комментариев было потрачено на "изобличение" тех же Зимовского, Козиятко, Новикова, Ковалевой, Хрущевой, Чайки и прочей лукашенковской агитационно-пропагандистской шелупони! Сколько "били", "лупили", "разоблачали" Наумова, Сивакова, Шеймана, Заметалина, Чикина, Посохова, Ермошину, самого Лукашенко?..

А с них — как с гуся вода! (Кое-кого, правда, все же сковырнули.) Почему? Потому что с некоторого времени все это стало походить на некую дежурную, чисто совковую кампанейщину, когда "слова у нас до важного самого в привычку входят, ветшают, как платье". Потому что нередко это было мелко, мелочно, примитивно, неинтересно и непрофессионально. Потому что опять же не знали (или забыли?) Ильича как нехилого ПУБЛИЦИСТА-ПОЛЕМИСТА. В этом деле он и "теперь живее всех живых" — опять же скажу, не боясь быть освистанным. И тут нельзя никак не согласиться с известным советско-русским поэтом Костровым:

*Умеем ли писать в газеты,*
*Как ОН — в "Разливе", у костра...*
*Мне кажется, у нас, поэты,*
***Мысль недостаточно остра!***

Нет-нет, я отнюдь не за то, "чтоб к штыку приравняли перо". А за то, чтобы о том же Азаренке, или же Зимовском, или же Козиятко вместо 399 раз написать максимум раза три-четыре. Но ТАК, чтобы этим ребятам, не отягощенным общечеловеческой моралью, добропорядочностью, благородством и профессиональной этикой, было стыдно перед матерями и отцами, братьями и сестрами, школьными друзьями, женами и подругами, сыновьями и дочерьми...

Тут мы вплотную подошли к нашему Белорусскому телевидению. К "Первому национальному телеканалу". В котором "национального" ровно столько, сколько в нашей стране демократии. Но при всем при том даже без ТАКОГО телевидения наша оппозиция — пустой номер... ноль без палочки. И в этом — второй горький, но необходимый урок для нее. Потому что, ежели несколько перефразировать опять же незабвенного Владимира Ильича, то можно сказать (с поправкой на время!), что из всех искусств наиважнейшим нынче для нас является отнюдь не кино, а именно **телевидение**. И правильно сделала наша оппозиция, когда в прошлом году, поддержанная европейской парламентской "тройкой", стала твердо и решительно добиваться доступа к государственным СМИ, и прежде всего к ТВ.

Мы помним, сколько тогда было сломано боевых стрел и копьев, сколько было сказано правильных, праведных, пафосно-гневных слов. Но постепенно Лукашенко со товарищи направили и эту очередную пропагандистскую кампанию в пустопорожнюю, циничную, бессовестную говорильню — и оппозиция, к сожалению, на это поддалась, "клюнула"!

Право определять, сколько именно минут на радио и ТВ или строк в госизданиях можно дать Гончарику, Богданкевичу, Бухвостову, Шушкевичу или Лебедько было предоставлено тем же посоховым, зимовским, козиятко, шиманским, гришанам и прочим дубовикам... Их детский лепет стыдно было слушать. Они возмущались: ах, до чего же обнаглела эта оппозиция! Имея свои, независимые СМИ, она, паршивка эдакая, и на наше телевидение, и на страницы "честных" газет лезет, ломает наши редакционные планы, съедает наш и без того тощенький гонорарный лимит... Дело дошло до того, что стали спорить: сколько же именно строк в месяц можно дать, к примеру, на страницах госгазет тому или иному представителю оппозиции: 120, 150 или 180? И эта паранойя звучала по Белорусскому радио и на ГОСУДАРСТВЕННОМ ТЕЛЕВИДЕНИИ! А наши демократы-оппозиционеры внимали ей, как сопливые первоклашки...

***

И сегодня, когда вскрыты вопиющие, просто беспрецедентные в мировой практике факты грубейших и бесстыжих фальсификаций в предвыборный период и во время самих президентских выборов, а власть, Центризбирком, государственные СМИ их просто не замечают, игнорируют, а Лукашенко таким образом сам себя выбрал и сам себя провозгласил победителем ДАЖЕ ДО ОФИЦИАЛЬНОГО ОБЪЯВЛЕНИЯ РЕЗУЛЬТАТОВ ГОЛОСОВАНИЯ (!!!), когда нас всех опять преследуют извечные проблемы типа "что делать?" и "с чего начать?", предлагаю, что называется, ребром поставить вопрос: **"Можно ли ТАК жить дальше?"** Нам, людям, всей стране? Нужен, вопреки "последним китайским предупреждениям", решительный, бескомпромиссный ультиматум: либо власть немедленно допускает — без всяких условий, оговорок, "круглых столов", "диалогов" и "монологов"! — оппозицию к государственным СМИ (и прежде всего на ТВ), содержащимся на НАРОДНЫЕ СРЕДСТВА, НА ДЕНЬГИ НАЛОГОПЛАТЕЛЬЩИКОВ, реализуя тем самым свое конституционное право, либо лидеры оппозиции открыто, громко и внятно, с целью более весомой и результативной поддержки святого дела освобождения Беларуси от тоталитарно-диктаторского ига и гнета взывают к мировым демократическим институтам, наиболее авторитетным лидерам ведущих стран Запада. Надо искать и находить новые контакты, "своих людей" в ООН, конгрессе и сенате США, администрации Буша, в ЕС, ОБСЕ и ПАСЕ, в иностранных посольствах в Минске... Добиваться, чтобы их голоса, заявления, послания, резолюции, обращения были более принципиальными и жесткими. Вплоть до нового объявления "невыездными" самого Лукашенко, должностных лиц его администрации, членов правительства, всех без исключения "палатников"... И пусть "самая солидная, информированная, влиятельная и красочная газета" страны напечатает хоть "Операцию "Белый аист-2", хоть "Барбароссу-2001", хоть "Осеннюю жатву-148" — все это будет лишь для самоудовлетворения Лукашенко и К°. И еще, может быть, для обитателей "Дома ветеранов".

Если режим пошел, повторяю, на беспрецедентную, подлую, гнусную, циничную фальсификацию итогов президентских выборов, если "всенародноизбранный" защищает себя, свою власть столь мощным, запредельно многочисленным репрессивным аппаратом, палачески расправляется с участниками МИРНЫХ демонстраций, шествий, пикетов, митингов, бросая на их "умиротворение" армады озверевших громил-профессионалов, с которыми в "дни пик" на улицах и площадях Минска просто не разминуться, если цинично ухмыляется в ответ на требования общественности сказать правду об "эскадронах смерти", то что же оппозиция и ее сторонники деликатничают?! И потом, разве Лукашенко в одиночку взбирался на вершину единоличной власти? Сам ли "химичил" с референдумом 96-го, с более удобной ему конституцией, сам ли уламывал инициаторов приснопамятного "импичмента", "тихоню" Тихиню, рекрутировал верноподданных "палатников"? Не Россия ли в лице доблестной тройки волонтеров-легионеров — Черномырдина, Строева и Селезнева — старательно подсаживала Рыгоравіча на трон, всячески потакая его диктаторским замашкам? Борьба за демократию, человеческие права и свободы давно стала проблемой МИРОВОЙ, ИНТЕРНАЦИОНАЛЬНОЙ. Как и борьба с терроризмом. И если кто-то, пусть даже Сорос, Билл Гейтс, Джейн Фонда или орден кармелиток помогают в этом благороднейшем деле нашей оппозиции, пусть даже и материально, — что же в этом зазорного, аморального? По данным ЦРУ, Россия ежегодно "спонсирует" белорусскому режиму миллиард долларов наличкой. Так что: чья бы корова мычала...

***

Удалось ли нашей оппозиции широкомасштабно и "широкозахватно", с максимальной убедительностью и аргументированностью, что называется, пригвоздить нынешний режим к позорному столбу в глазах граждан РБ и всего мирового сообщества — это еще бабка надвое гадала. Убежден: нелегкую, рутинную, порой просто небезопасную для лидеров оппозиции работу эту в дни, когда Лукашенко и его присные окончательно сбросили с себя "белые одежды" мнимых либералов и прогрессистов, надо продолжать с еще большей настойчивостью, наступательностью, изобретательностью. И редикализмом. Конечно же — в цивилизованном смысле этого понятия, исключая, естественно, революционные призывы к топорам и вилам. Перефразируя знаменитую формулу Ильича, можно сказать: **всякая демократия лишь тогда чего-нибудь стоит, когда она умеет не только стойко обороняться, но и решительно наступать.**

Хвастливые заявления "батьки" о том, что он ничего и никого не боится, — чистейшей воды лицемерие. На самом деле Рыгоравіч и его пресмыкающееся окружение как черти ладана боятся ПРАВДЫ. Ярчайший пример тому — прошедшие выборы. Ибо вся механика, философия, психология и арифметика нынешнего режима держатся на искажении ИСТИНЫ, на ЛЖИ, на ДЕЗИНФОРМАЦИИ, что, повторяю, ну оч-ч-чень "элегантно" было продемонстрировано на прошедших президентских выборах. Гипотетически можно предположить, что власть в споре с оппозицией за "место под солнцем" (на ТВ, в госгазетах) опять пойдет на "диалог". Но при этом, что можно смело утверждать, обязательно, по генетической своей предрасположенности снова обставит эту процедуру выгодными ей требованиями, условиями, предложениями с целью опять заболтать проблему, закамуфлировать свою коварную, безнравственную сущность. И здесь пойти на уступки — значит в очередной раз погубить дело, превратить его в очередную жуемотину, в еще один постыдный балаган. С вконец обанкротившимся режимом, держащимся на откровенной лжи и беспардонном лицемерии — никаких компромиссов! Верно всех нас Виктор Гончар предупреждал: **"Компромисс с Лукашенко невозможен, как невозможно непорочное зачатие".**

Оппозиция, в случае необходимости, должна будет выставить достойных, опытнейших бойцов-"парламентеров", умеющих, простите меня, не сопли жевать, не мямлить банальности и прописные истины, а вести диалог с властью смело и решительно, без пионерского "мандража", "с чувством, с толком, с расстановкой". И стоять на своем до конца — чего бы это ни стоило! Ибо отступать больше некуда. Позади пропасть, бездна. Повторение эпохи палеолита в отдельно взятой стране. Поэтому важно зацепиться хотя бы за одну оперативно выгодную высотку, которую можно будет со временем расширить до стратегического плацдарма. А там и Бог поможет...

